Казімір Камейша

# ТУТ МАЕ ВЁСНЫ ПРЫЧАЛЕНЫ



Казімір
Камейша



# ТУТ МАЕ ВЁСНЫ ПРЫЧАЛЕНЫ

**Вершы
і паэма**

**Мінск
«Мастацкая літаратура»
1977**

## ЧАРОМХАВЫ ЯР

Тут мае вёсны прычалены,
Тут,
дзе заплёўся ў гушчар,
Нёманскай хваляй расхвалены,
Белы чаромхавы яр.

І пастушку, і паэту
Ты не адмовіш ні ў чым.
Белае воблака цвету
Кожнаму па плячы.

Спеўны ўраджай салаўіны
Выспеў на кожным кусце.
Хай каранёва й галінна
Гэтае дзіва расце!

* * *

Адгрукацеў цяжкі цягнік гадоў,
На папялішчах уваскрэслі хаты.
Дзе ластаўкі звілі сабе гняздо
У жарале музейнае гарматы.

Гуло, як пекла,
тое жарала,
Падскоквала гарачая станіна.
Усё грымела, вухкала, гуло,
Ў асколкі рассыпаліся хвіліны.

Дымілася абвугленая сталь,
Ляцеў снарад...
і выбухі ўзрасталі.
Па той жа траекторыі амаль
Сягоння ў неба птушка узлятае.

Як будучыні сімвал адшукаць,
Пытаюць дзівакі ў сябе часамі.
Ну вось ён,
гэты сімвал, перад вамі —
Глядзіце: зараз ластаўкі ўзляцяць!

## СЯМЁНАЎНА

Не з частушкі старой «Сямёнаўна»,
А з залеснага ты сяла.
Нарадзіла дзяцей сямёра
І шчасліваю, кажуць, была.
Кажуць,
муж быў найлепшы з лепшых,
Ды не доўга з ім пражыла.
Правяла яго ў сорак першым,
Назаўсёды яго правяла.
Перагорала.
Што там гора? —
Ты магла не такое стрываць.
А здалося страшней за голад
Слова страшнае «удава».
Смутак вокан табе
прыгледзеўся.
Эх ты, год,
сорак сумны год.
Быў сусед да цябе прысуседзіўся,
Адсуседзіла ты яго.
Помніш, мужу шаптала салодкае:
«Мы з табою, як рыбка з вадой...»
І здавалася ноч кароткаю,
Як дарога у родны дом.
А бывала,
Ты абцасікам гром выбівала.
Не спяваецца і не спіцца,
Толькі коціцца думак гарох.
Ходзіць вецер па аканіцы —

Барабаншчык тваіх трывог.
Вось і самыя цёплыя ночкі
Адыходзяць паціху
упрочкі.
Не з частушкі старой,
Сямёнаўна,
А з залеснага ты сяла.
Гадавала дзяцей сямёра
Ды у горад усіх правяла.
Разляцеліся ўсе сямёра,
Разляцеліся хто куды.
Ты,
як птушка з сірочага бору,
Без сваіх птушанят маладых.
Хоць бы ім шанцавала,
пагодзіла,
Абыходзіла ўсюды бяда.
Лёс аддаў табе толькі праводзіны,
Стрэчы іншым, шчаслівым, аддаў.

## СТОЎБЦЫ

Рыфмаў больш не знаходзілі
Апроч «хлопцы» ды «стопцы».
Як насценныя ходзікі,
Ходзіць станцыя Стоўбцы.
І гараць павучынкі
Рэек тых гаманкіх,
І па іх без упынку
Павукі-цягнікі.
Кожны дзень,
як прыпынак.
Я чакаю, аднак.—
Можа, з тых
павучынак
Апаўзе навіна.
Запацелыя шыбы
Зноўку грукат трасе.
І шыбуе так шыбкі,
Аж жахаюцца ўсе.
Многа станцый пабачыў,
Але ты для мяне
Найбліжэй, найрадней,
Больш чым станцыя значыш.
З дабрынёю сялянскай
(Як не ўспомніць аб тым?!),
Нашых хлопцаў пушчанскіх
Закалыхвала ты.
У зялёных вагонах
Мы ляцелі ў жыццё.
Чулі ў колах разгонных
Твайго сэрца біццё.

Ходзяць ходзікі,
ходзяць,
Павучынка ляціць.
Стрэлкі зводзяць,
разводзяць —
Па жыцці,
Па жыцці...
Рэйкі...
Стыкі ды стыкі...
За прыпынкам — разбег.
Што мне свет наш вялікі
Без маленькай цябе?!

* * *

Слова маё, не блудзі.
Ты не заблудзіш, я знаю.
Пойдзеш дарожкай ля гаю,
Проста і проста ідзі.

А як павернеш направа,
Выпі крыніцы глыток
І там, за былой канавай,
Ступі на чмяліны грудок.

Убачыш — зялёнаю хмарай
Лясы зацягнулі абсяг.
Вось там і жыве мая мара,
А я — гэтай мары працяг.

Зайдзі ў нашу крайнюю хату,
Бацькоў прывітай і расчуль.
Будзь госцем, але й памагатым,
Скажы, што само ты адсюль.

Я, слова, табе давяраю.
Прабач, што адно выпраўляю
У шлях гэты родны ля гаю.
Цябе, адшукаўшы ў глыбінях,
Няўжо я хаваць павінен?!

* * *

Ты ад маці, наша мова.
І дзіця аб тым жа самым:
Першасловам,
вечнасловам
Пракрычала свету:
«Ма-ма!»

## НА МАГІЛЕ БАГДАНОВІЧА

Сярод гэтых гораў,
 скальных,
 сініх,
Дзе здаецца глумным кожны крок,
Самаю высокаю вяршыняй
Бачыцца магільны твой грудок.
На радзіме васількуюць нівы,
Вочы з васількоў у землякоў.
Не самотны, кажаш ты, шчаслівы
З той сямейкай вольнаю радкоў.
Гарачынь стамлёная над Крымам,
А схілюся над тваім грудком,
Праплыве твой твар перад вачыма,
І павее родным халадком.
Пасяджу.
Мне ёсць аб чым падумаць,
Мне дазволіць гэта цішыня.
Побач птушкі птушанят гадуюць,
Усе яны — паэтава радня.
У смерць не вераць родныя дубровы.
Колькі ж ім здалёк цябе чакаць?
Мнагакрылы вырай твой радковы
Зноў мяне ў дарозе напаткаў.
Чутна, як хвіліны адбіваюць
Векавых галінак касцяшы.
Плешчацца, аж небасхіл змывае,
Бухта сіняя тваёй душы.

* * *

Сівыя, дужыя дзяды,
Вясковыя палітыкі,
Сядзяць ды кратаюць гады
Пад клёнамі,
пад ліпамі.

Накукаваны у бары,
Прытупаў век іх пенсій.
Ну што рабіць? —
сядзі, куры,
Спявай унуку песні.

Палітыкі, жартаўнікі...
Без справы сумнавата.
Пайсці б ім у вартаўнікі,
Ды не патрэбна варта.

Цікуе мудрасць з-пад павек,
Вясковая,
зямная.
І з цацкай моднай новы век
Ля ног у іх гуляе.

## ВЯСКОВЫ АРКЕСТР

Хай струною звонкаўдарнай
Гукі рве на сцэнах час,
Ты у вёсцы папулярней,
Чым любы сталічны джаз.
Нестамлёны, нецярплівы,
То жаніх,
то госць,
то сват,
Ад калядаў і да жніва
Хоць бы раз пасумаваў.
У ваколіцы свяжэла,
Рэзаў так — займала дух.
З Навікоў да Рубяжэвіч
Разбягаўся полькі круг.
Нават мёртвага разбудзяць,
Калі ўсходзіцца гульба,
Два браты — гармонік з бубнам,
Сёстры — дудка і труба.
А цымбалы...
Давялося ім ці мала?!

Толькі струны распрамень —
Зойдуцца ад шалу,
Рынуць выраем з калень
Жаўранкі-цымбалы.

А дзе ж тая скрыпка,
Што пчалой спявала,
Што смыком усхліпка
Струны смыкавала,

Быццам мёд салодкі,
Гукі смакавала?
На спачын ты не схацела,
На вяселлі ў Навіках
Ты ад шчасця вар'яцела
У суседавых руках.

Дзе шумяць шляхі пяскова,
Ты грымі, аркестр вясковы.
Без афіш табе павага.
Цешыш Нёман і Сулу,
Мой міжвёскавіч, бадзяга,
Нашых вёсак весялун.
Калі граць, дык граць да змогі,
Каб скакалі рэчка й гай.
Чуеш, чуеш: просяць ногі!
Ну дык грай жа,
Вечна грай!

## ГАСЦІНЕЦ

(трыпціх)

### 1

Даўжыня...
У два рады бярозкі
Абступілі гэты шызы шлях.
Ліўню на асфальце лёгкі плёскат...
І на сонца —
                месячны аншлаг.
Ўсё ляцім пад подых млявы лісця.
Дрэвы, дрэвы...
                Саджанцаў пралёт.
Дзе працяг?
                Снарад спіліў калісьці?
Ці зламаў шалёны самаход?
Маладыя толькі падрастаюць,
Маладым чакаць няма калі.
Пэўна, і дажджы таго жадаюць,
Маладыя каб хутчэй раслі.
Ланцужком даўгім
                уздоўж гасцінца
Разбрыліся
                дрэвы-пехацінцы.

### 2

Цішыня...
Каля гасцінца вёскі —
Хаты і бярозкі ў два рады.
Стрэхі адліваюць жоўтым воскам,
Ў позняй жоўтай спеласці сады.

Ды адчыніш дзверы філянковыя,
Каб глынуць здарожана вады,
Заспяваюць пеўні ручніковыя
У руках удоў немаладых.
Стаў бы кожнай хаце памагатым,
Сена б накасіў,
нарэзаў дроў,
Ды багата ў Беларусі хатаў
З вечнаю тугою ўдоў.

3

Чысціня...
Шукаў яе у рэках
І шукаў на золку у расе,
А убачыў на жаночых вейках,
У жаночай жаласнай слязе.
І цяпер, калі убачу слёзы,
Думаю, а як хапіла іх,
Каб аплакаць гэтыя бярозы
І усіх, што сёння спяць ля іх.

## ЧАТЫРЫ ДАРОГІ

> У Івянец вядуць чатыры дарогі...
>
> *З пачутага*

Чатыры дарогі з пушчанскіх бароў
Выбеглі,
Вось і збягаюцца.
У Івянцы — гарадку ганчароў,
Як тыя сваячкі,
вітаюцца.
Для думкі адважнай наш свет не малы,
Высокае неба Айчыны.
Чатыры дарогі,
Чатыры крылы
Мы маем з табой
за плячыма.
Каб шчасце глядзела ў чатыры акны,
Каб нечысць яго не замгліла,
Шуміць гарадок наш,
як млын ветраны,
Дарожныя круцячы крылы.
Ці гора, ці голад,—
круціўся вятрак,
Ты ўсё перамолваў цярпліва.
Ты белы увесь,
як халат млынара,
Ад гэтага вечнага мліва.
Сваячкі-дарогі,
І я ім сваяк.
Мне радасна з думкай адною:
Дарог
чатырох
Несуцішны вятрак
Раскручваецца за спіною.

## РАЁННАЯ ГАСЦІНІЦА

Паважаю за гасціннасць,
За павагу да гасцей
Гэты домік з цёсу,
з цішы,
Чатырох сасновых сцен.
Забываецца адлегласць,
На падушках пухавых
Вёска з горадам прылегла —
Галава да галавы.
Хвалім ложак і падушкі,
Мы асвоіліся ўжо,
Хоць з другога краю птушкі
У шпакоўніцы чужой.
Сон вартуе наш жанчына.
Лёгка з вартаю такой.
А ў вачах такі спакой,
Аж мяне спакой пакінуў.
Вяжа сыну рукавіцы,
Вяжа ноч і вяжа дзень.
У руках гуляе спіца,
Як на шыбіне прамень.
Я сачыў за спіцай доўга...
Як звязаць яна магла
І людзей, і іх трывогі
Вузялком адным жытла?

* * *

Час ідзе сваёй хадой
Шляхам звычным самым.
Прыбаўляецца гадоў
І сяброў таксама.
Столькі маеш стрэч адных,
Столькі свят — злічы ўсе —
Як старонак закладных
У цікавай кнізе.
Ты не гладкі,
Шлях мой, шлях,
Не хачу хваліцца.
Ты у гру́дах-мазалях
(Цяжка мне й зямліцы).
Што мне прыйдзецца спаткаць,
З чым адным застацца?
Мне б і мару хлапчука,
І развагу старца.

* * *

Касяк раз'юшаны машын...
Трымціць,
гудзе смуга ліловая...
І напалам піла шашы
Сасняк цяністы распілоўвае.

Цячэцца лёгка тут смале,
Вясёлы цень
з галінак вісне.
І раптам промнем на піле
Зямляцкі,
родны позірк блісне.

І нагадае столькі ён
Таго,
што рэдка ў сны прыходзіла:
Раку і двор,
ля весніц клён,
Туман густы, нібы малодзіва.

Дню роўна, як камлю, стаяць —
Ліпнёвы дзень зямлю пагодзіць.
А знаеш, лес,
успомніў я:
Пілу на два рады разводзяць.

Каб чалавеку не блудзіць,
Вось гэтак і шашу разводзяць,
Ад дому мчыць радок адзін,
А той другі дамоў прыводзіць.

* * *

Смуга адступае з дубровы,
Бліжэй падыходзіць да стрэх.
У цішыні вечаровай
Мароз раскалоў арэх.
Паўзуць па гарэзных галінах
Белыя мурашы.
Малюе мароз няспынна
Узорную казку шыб.
Са скрыпам адчыніцца брамка,
Што дзень яшчэ развярадзіў.
Настылай дзвярною клямкай
Паблісквае маладзік.
І цёплы, як сон немаўлячы,
Дымок казытне тваю скронь.
А ў печы гуляка-агонь
Упрысядкі скача і скача.
І толькі ўсё гэта пабачыш,
І толькі згадаеш яго,
І сэрца ў грудзях заскача,
Як гэты у печы агонь.

* * *

На месцы млына —
                                масток драўляны.
Гарыць каліны
                                лісток каляны.
Ільі,
          мясцовага прарока,
Тут громам аддаюцца крокі.
Грыміць,
                    бяжыць масток драўляны
За тую вёску
                    Мастаўляны.
Ах, памяць, памяць чалавека,
Ты станеш хутка акіянам.
Ты столькі увабрала
                                рэкаў,
А мост адзін.
І той...
          драўляны.



Як шнурочак журавліны
Роўна неба зашнуруе,
Зноў бяжыць на успаміны
Халадок зялёны руні.

Што там жоўты, васільковы,
Што згараюць пад рукою —
Залівае ўсё наўкола
Той зялёны пенны колер.

І ці сорак, ці семнаццаць
Год праскочыла наўзбочкі,
Ты ўсё роўна у юнацтве,
На зялёным дываночку.

Там, над жоўтай баравінкай,
Бачыш,
вочы ледзь прымружыш,
З журавлінаю парынкай
Ў пары ліст кляновы кружыць.

Ліставея усчалася,
Ніжай,
ніжай дня карона.
Ты жывеш у познім часе,
А такі яшчэ зялёны.



Сумна ехаць з лесу веснавога,
Быццам тут у чымсьці саграшыў.
Ўся яго зялёная трывога
Сталася трывогаю душы.

Ўсё смяецца ласкаваму промню,
Кветка-сон зусім як дзіўны сон.
І зязюлі першы голас пробны
Молада палуджаны расой.

Лес душу гаюча абступае,
Кронаў зеляніна ўсё гусцей.
Радасць чалавечая скупая,
Як пражылка, блісне на лісце.

Нам і супакоіцца пара,
Не у нас, а у зямлі абнова.
Вусны ўсё ж па-восеньску гараць,
Хоць дрыжаць ад радасці вяснова.

Як зайчыха, кінецца дарога,
Прападзе у лесавой цішы.
Хай тваю зялёную трывогу
Разнясуць па лесе мурашы!

## ЧАРНІГАЎСКАЯ ГРОНКА

### 1. Сваяцтва

Хмары валяцца,
валяцца
На Чарнігаўскі вал.
Скача дожджык і хваліцца
Сам сабой,
самахвал.
Ён ляцеў аж з-пад Гомеля,
Заглядаў у вагон.
У яго той жа гонар,
Ён — чаканы тут госць.
Так і здымкам засведчана:
Мы, і дожджык ля нас...
Дрэў ссівелых засечыны
І усмешак вясна...
Дахаў водгалас срэбны
Рос ушыркі і ўдоўж.
Тупаў срэбны,
патрэбны
Ніве братняе дождж.
Дзіўна нашаму класіку,
Ён падгледзеў няўзнак,
Як ляцеў за абцасікам
Ліст кляновы, зямляк.
Бачыў лёсу адбітак
У пражылках яго.
Нібы вязіва нітак,
Сувязь братніх шляхоў.
Дарагое,
палескае
І сваяцкае скрозь,

І знаёмаю фрэскаю
Твар за шыбай прарос.
Густабровы дубровы,
Пералзовы крыніц...
Украінскае слова
З нашай рыфмай звініць.

### 2. Дзясна зачараваная

Вось і стрэліся з гэтай ракой,
Поўнай зор,
зіхатлівай красы,
Дзе карась
залатым плаўнікам
Чэша водарасцей валасы.
Чую пошчак вясла —
Недзе песня ўсплыла.
Існасць краю ўсяго і яснасць,
Чараўніца прыроды — Дзясна.
Берагоў яе
жоўтыя дзясны
Развярэдзіла круцізна.
Падбягае яна да гародаў,
У рыбацкім бурліць кацялку,
Заганяе чарот у чароды,
Закалыхвае асаку.
Вось і песня ужо не адна,
У суполцы хваляў яна.
Сосны ў Сосніцы дзіўна растуць,
Ўсе двухкронна растуць як адна:
Адной кронай у неба імкнуць,
А другой дакранаюцца дна.
Помніць бераг Даўжэнку тут.
Даўгагрыва гарыць касцёр.
Тут і купіна кожная — груд,
І палянка любая — прастор.

Чую ў лозах усплёск весляра,
Чую — берагу кажа Дзясна:
— Ах, забавілася,
пара!
Я да бацькі спяшаю,
Дняпра.

### 3. Гасціннасць

Вечарамі бяседнымі
На паверсе высокім
Радасць наша няўседная
Так і просіцца ў скокі.
Стольна стол
прытанцоўвае,
Спаць застолле не думае.
Паэтэса мясцовая —
Гаспадыняй у нумары.
Ўсплёск вясла ў слове ласкавым,
Дзверы радасна скрыпнулі.
Песні дзве,
як дзве ластаўкі,
Абдымаюцца крыламі.
Дзве сястрыцы стрыечныя,
Толькі ў першае стрэчы,
Пра сваё,
пра адвечнае
Спавядаюцца вечару.
Нібы іскры шампанскага,
Граюць зоры дзяснянскія.
І душа ўсхваляваная
На вясёлае хвалі.
Сны адны непрызнаныя,
Ну, а нас тут прызналі.
Чым не дом?! Ах, як добра!..
...Што там думаюць дома?

* * *

Праводзіць лета ў шлях зыходны рана,
Хоць восень зноў
шкрабецца у трысці.
Лісток,
што ўжо з галінкі адарваны,
Яшчэ ў вачах працягвае расці.
Усё здаецца цёплым,
звонкім,
свежым,
І лісце разам дыхае са мной,
І на рачным прыціхлым узбярэжжы
Такі нязвыклы кветак густабой.
І бачыш ты — паказвае галінка —
Усё, што свет ад вока прытаіў.
Гарыць, жыве
мядовая пылінка
На звонкім прамянёвым вастрыі.
І абвісаюць лозы аблачыста,
Крыніцу вольха мацае ступнёй,
І сэрца,
як ставок вадою чыстай,
Прырода напаўняе дабрынёй.
Не верыцца, што хтосьці сее здраду,
Што хтосьці злосці повен цераз край.
Заходзь у сэрца ўсё, што варта праўды.
Няшчырасць, на парог мой не ступай!

* * *

Галасы, галасы за дзядзінцам.
Абгукала ўвесь лес дзетвара.
Гарбузовы прыстрэшак дзяцінства,
Як гара, выплывае з двара.
Вераснёва дрымоціцца поле,
Вераснёва дымяцца кастры.
Верасовага жару прыполле
Праз паляну праносяць вятры.
Не рассыплюць яго нізавошта.
Хай гарыць і сіней і мацней.
Верасовая сіняя пошта,
Доўга-доўга ты йдзеш да мяне.
Можа, ў гэтым двары лесніковым,
Пад сузор'ем рабінных маніст
Я сустрэну цябе выпадкова,
Не адпраўлены вечнасцю ліст.
Восень жоўтая,
як вашчына.
Дзесьці лозы паўзуць, як вазы.
На прыстрэшак
(і на ўспаміны?)
Ціснуць цяжкія гарбузы.

* * *

Добра спіцца пад дождж.
Ты паспі,
ты паспі яшчэ хвілю,
Сон свой лёгкі падоўж.
Спяць і птушкі яшчэ,
У вянок склаўшы мокрае крылле.

За цябе,
за сябе
Падзівіцца пайду
На зямлю,
што дажджу, нібы свята, чакала;
Вадасцёчную тую паслухаць дуду
І паслухаць капежныя дзіва-цымбалы.
Хмары ранак і неба
ў палон узялі,
Захапіліся буйныя хмары-блудніцы.
Чуеш, стогне зямля,
Ёй не спіцца, зямлі,
Калі нам па-прыгодніцку спіцца.
Задымілі яе,
Запылілі яе,
Закурылі травіначку кожную.
Гарам світка муроржная аддае...
Хіба ж можна так,
хіба ж можна...
Дайце сон ёй грыбны
і амшарны спакой,

Хоць часцінку таго,
чым жаданне багата.

Хоць у дождж,
Хоць у дождж дайце ёй
Яе чыстую світку і свята.

* * *

Зноў ідзеш па гэтых вёсках,
Ля аўчынных сасьнякоў.
Навікі,
Баркі
і Лозкі,
Людзі-цёзкі,
вёскі-цёзкі...
І вось так ішло з вякоў.
Зноў ідзеш і тым багаты,
У суседстве дрэў ідзеш,
Дзе усе падобны хаты,
Як і твары у людзей;
Дзе здалёк цябе вітаюць
Сад,
калодзеж
і стажок,
Дзе свая усюды памяць
З агароджак і крыжоў.
Ціша.
Чуйныя прасторы,
Цікаванне цёплых шыб...
Сыпле неба шчодра зоры,
Што згасаюць у душы.

## ВЯНКІ

*Памяці*
*Анатоля Сербантовіча*

Вянкі і слоў, і кветак,
Усё цяпер, што хочаш.
Ляжыць ён ціхі, светлы,
Спакойны, як вяночак.
Ў пакоі стала пуста,
Аж страшна позірк кінуць.
Ражкі жалобных хустак,
Ад слёз яны цяжкія.
Вянкі не ўсё,
з вянкамі
Такая слоў раскоша.
Жывому й то цяжкая
Была б такая ноша.
Плывуць вянкі павolі
Не рэчкаю Купалля.
У белым млечным полі
Завея закіпае.
Завейны гул сканае,
Пакуль мы дойдзем пешшу.
З магілак крочаць з намі
Ў жалобе сябра вершы.

3 Зак. 403

* * *

Помніш: за вёскаю выган,
Вербаў радок і касцёр?
Толькі пачатая кніга
З назваю вечнай «Жыццё»,
Першая толькі старонка,
Першы радок яе.
Іскраў гарачая гронка
Ноччу у снах астые́.
Мы — свінапасы з табою.
А што нам, сядзі ды вартуй.
Як дубчыкі мы пад вярбою,
Быццам і выраслі тут.
Так, як і ў матчынай печы,
Скача агонь у дупле.
А ў торбачцы гэтак дарэчы
Са скваркаю свежы хлеб.
І Франак-дзядуля між намі,
Частуем той лустай яго.
Здзяцінеў стары, аднак жа,
І нам весялей ад таго.
Дык дзе ж тыя верныя вербы —
Першы у кнізе радок?
Пакурвае зморaны ветрык,
Кастровы віецца дымок.
Знайшоўся любімы напрамак,
Пайшлі мы — прыспела пара.
І толькі дзядуля Франак
Застаўся навек ля кастра.

* * *

Твой месяцовы твар у акне,
Як здымачак непаўторны.
Бэзавы кусцік аледзянеў,
Дожджык па шыбінах зорны...
Суд ты мой строгі, мяне не судзі,
Што супыніўся тут зноў я.
Ты сярод тварыкаў ціхіх сядзіш,
У гэтым сямейным сузор'і.
Хіба паўторыцца ўсё, што было,
Не суцяшайся, надзея.
Лёгкая песня самлелых балот
Перарасла у завею.
Усё захапіла яна пад крыло:
Нашы сустрэчы і песні,
Нашыя доўгія крокі ля весніц,
Гэта сяло.
...Вочапы дрогка ў задворках звіняць,
Вёдры акуты марозам.
І хочуць з табой удваіх нас абняць
Белыя рукі бярозак.

## НА АРАБАЦКАЙ СТРЭЛЦЫ

Рыжы стэп сквірчыць ад спёкі.
Не паверу, не кажы,
Што у нас,
у Налібоках,
Дзень і ноч ідуць дажджы.
Сонца п'ю, і з тым міруся.
Эх, і шчодры, Поўдзень, ты —
Белатварых беларусаў
Запаліў да чарнаты.
Заліваеш пенай белай
Стэп,
палаткі,
нашы сны.
З Сівашом Азоўскі бераг
Ветрам звязаны адным.
Чайка падае над вёскай.
Як ёй крылы прасушыць?
Мокне тут адно,
ў Азоўскім,
А другое — ў Сівашы.
І вядзе прыбой прыстрэлку,
І на цыферблаце вод —
За гадзіннікавай стрэлкай
Арабацкай стрэлкі ход.



Калі мы з морам удваіх,—
Як роднае мне мора.
Хоць я з мясцінаў тых лясных,
Свая мне хваляў мова.
П'ю мора.
Сам асаланеў
І мора абдымаю.
Яно ж не ведае мяне,
І я яго не знаю.
Ды мы згаворымся ураз,
Адпрэчым адзіноту.
Прыбой уздымем, як баркас,
Аж страсянём шыроты.
Ты не здзіўляйся, што шумім,
Што нас спакой пакінуў.
...Шумім мы кожны аб сваім
У берагах адзіных.

## АЗОЎСКІЯ ЭЦЮДЫ

* *

Бачыш: мора не жартуе,
Батарэйна б'е прыбой.
Мора з берагам ваюе
Справядліваю вайной.

Залпам,
залпам
б'е прыбой
Па цішы берагавой.

Так стараецца, аж крэкча.
Залівае ўсё абложна,
Быццам бераг тая крэпасць,
Што узяць яно не можа.

* *

Да людзей прыходзіць змора,
Разам з вечарам
прыходзіць,
Ды не знае зморы
мора,
Ды не знае — знаць не хоча.
Трэба ж, суткамі яно
Грае рыбкай люстраной.

Круціць і вінты, і хвалі,
З хваль віе канат даўгі.
Судна перад ім, як шаля,
Шаля вагаў без вагі.

* *

Ах, і вецер задзірасты,
Аж крыло у чайкі гнецца.
Мора пеніцца грываста,
Мора не хавае гнеў свой.

Гэта вецер-ваявода
Мчыць прыбой белабароды.

Ну дык што ж,
старайся, вецер!
Твой прастор — не толькі мора...
Вунь, глядзі: гуляе ветразь,
Нібы плашч тарэадора.

* * *

Ніхто не запрашаў мяне у Лепель,
Я проста сам наважыўся туды.
Бязліўнева,
кастром гарэла лета
Ад самае азёрнае вады.
Апад ужо усчаўся жалудовы,
Ужо сціхаў паўсюль яблыкапад.
І жоўтыя сугрэвіны дубровы
Нязвычна залацілі далягляд.
Ля берага злавалі рыбаловы,
Зеленавата возера цвіло.
І лёгка,
ў такт развažліваму слову,
На лодцы весялілася вясло.
Было яшчэ дзівоснага ці мала,
Што весяліла,
саграваля зрок.
Ў прыродзе ўсё гарэла-дагарала,
І развітальны бачыўся намёк.
Па сцежках баравых блукаў да схочу,
Не шкадаваў,
што ў гэту цішу збег.
І ўсё-усё,
што умясцілі вочы,
Як падарунак, я прывёз табе.
Звычайная была зусім дарога,—
Сказала ты,—
таксама мне паэт —
Не бачу я тут дзіўнага нічога,
Не ўскалыхнуўся гэты свет».

Няўжо табе пейзаж той
сумным здаўся?
Чаму твой позірк так пахаладзеў?
А свет жа калыхаўся, калыхаўся,—
У возеры я добра разглядзеў.

* * *

*С. Н.*

Прыгадалася...
У светлым доміку
Мы з табою жылі на гары,
Дзе вятрэц толькі лёгкім дотыкам
Урываўся у вечары,
Дзе раслі кіпарысы завострана,
Гронкі ў неба цягнуў вінаград,
І з якогасьці дзіўнага вострава
Прылятаў салавей у наш сад.
І спяваў ён так тонка і жаласна,
Ажно моргаў і плакаў маяк.
Нават мора тады набліжалася,
Каб паслухаць яго, салаўя.
Часам дождж забягаў у адведзіны,
Па балконе,
па снах цурчэў.
Вельмі ж мала было адведзена
Нам з табою і дзён і начэй.
Самых яркіх паўднёвых кветак
Я прыносіў табе у пакой.
Вось бы, думаў, яшчэ васількоў
З поля роднага, з нашага лета.

Ды жылі мы з табой на гары,
Ды жылі мы з табой да пары.

Недзе сёння у краі суровым,
Там, дзе зябка і ліхтару,
Ты у думках сваіх вечаровых
Узыходзіш на тую гару.

Над радкамі маімі гадаючы,
Ловіш нейкі вясёлы намёк.
Хай ляціць да цябе
праз далечы
Ў дзюбе ластаўчынай васілёк.



І зноў сваволіць вецер-лісцятрус,
І сэрца зноў трывожыцца не ў меру.
Цябе, маю студэнцкую сястру,
Шукаю я у гэтым жоўтым скверы.
У тую лістападаўскую ноч
На ўсёй зямлі было нас толькі двое,
Ды гэта неба жоўта-лісцвяное,
Ды насупроць было яшчэ акно.
У тым акне дражнілася святло,
У тым акне да раніцы не спалі.
Замнога шчасця, пэўна, ў нас было,
Як дрэвы лісце, мы яго гублялі.
Прысяду я на лаўцы соннай той,
Каля ствалоў,
ад ліўняў заімшэлых.
Лісцё шасціць,
а можа, плашчык твой?
Які знаёмы гэты лёгкі шэлест.
Смуга і зноў кранулася павек,
І з памяццю ніяк мне не паладзіць.
Сямейны і цвярозы чалавек,
Чаго я ў тым блукаю лістападзе?
А можа, выйдзе з далечы яна,
Вясновым заяснеецца паглядам...
Ды ў лістапад не вернецца вясна,
Калі ўцякла аднойчы з лістапада.

* * *

Сонца й сёння у нашай кватэры
З самай раніцы не было.
Зноў туманам густым недаверу
Затуманілася чало.

Хто нам стаў на шляху, хай збочыць
(Людзі прагнуць шляхоў чужых),
Я гляджу ў твае зольныя вочы
І нічога не бачу у іх.

Толькі ў добрае, шчырае веру,
Хай з вачэй тваіх сум ападзе.
Адчыні, дарагая, дзверы —
Можа, сонца да нас ідзе.



Пусцее пляж.
Яго і сонца пакідае.
Як апусцелы саквяж,
З чароту лодка выглядае.
Гуляе у цішы вятрэц
Шматком пажоўклае газеты.
Звініць, звініць
трава званец
На вуха лету.
Зямля вымольвае дажджу,
І ў дождж усё ж яна не верыць.
Таму, што сам
задумлівы хаджу,
Задумлівым здаецца бераг.
Змарыўся, бераг, ты, аднак.
Ды вось прыспеў жаданы вечар.
Туману світку апранай
Хутчэй на плечы...

## УРОЧЫШЧА

Дрымотай долы перашыты.
І верад чуйны і салёны.
Біклагі
        чуйны перашыек
Гартаніць у руцэ стамлёнай.
Праз гэты мурашыны поплаў,
За гэты беразняк пярэсты
Расхрыстаны
                раённы поўдзень
Шыбуе сонцу напярэймы.
Высокі поўдзень блаславіце,
Пакуль спякоціцца
                        без краю,
Пакуль на ўрочышчы
                        страляе
Касы тугая бліскавіца.
Ужо ў лінейку у касую
Луг разлінееены
                яскрава.
І почырк малады атавы
Далечыні усёй пасуе,
І поступ наш
                у гэтай шыры
Усёй краіне зразумелы.
...Біклагі чуйны перашыек
Смяецца радасна струменю.

## НА ВЫСТАЎЦЫ ПТУШАК

Яна пачынаецца з галубоў.
Ну, хто ж іх не чуў і не бачыў?
А ў клетцы, паглядзіш: вяночак-чубок,
І птушка глядзіцца іначай.

Той шызы, а гэты бялявы, як здань.
Ён, шызы, з вясёлкай на шыі.
А побач — слязлівыя вочы дразда:
Няма тут раздолля і шыры.

З дачкою мы ходзім з пакоя ў пакой,
І бачу, карціць ёй пакратаць
Сваёю дзіцячай нясмелай рукой
Птушыныя тонкія краты.

І просіць яна:
— Пакажы мне хутчэй,
Хутчэй пакажы папугая.
На кенара глянуць карціць ёй яшчэ,
Паслухаць, пра што ён спявае.

Ля соннай аўсянкі падоўгу стаім.
Пазнала ці, можа, здаецца.
Яна ж у дзяцінстве вялася маім,
А зараз смуткуе у клетцы.

Нам весела, помніш, аўсянка, было.
Як дочцы маёй сінявокай.
Ну, як жа зпавілі цябе у сіло,
Ўспамін мой далёкі?

Дачка задаволена.
Рад птушкалоў.
Чаму ж не вясёлы адзін я?
На выстаўку птушак дачку я прывёў,
А думаў, звяджу у дзяцінства.

* * *

Да каранёў спаўзаюць цені.
Стаім, маўчым з табой удвух.
Яшчэ не снег,
Яшчэ праменні
Тваю ўсыпаюць галаву.

Гайдаюцца галін арэлі,
А мы ўглядаемся туды,
Дзе палым лісцем прашумелі
Мае нядаўнія гады.

Мінулі лес,
Мінулі поле,
А я дасюль не ачуняў.
Не даганю іх сам ніколі,
І іх табе не пераняць.

* * *

Салдат я.
Ты даруй,
што не змагу
Цябе спатканнем лішнім абнадзеіць.
Стаю я,
захінуўся у тайгу.
Завея вые і снягі кудзеліць.
Напружваю да болю слых і зрок.
А ноч вакол,
нібы тайга,
густая.
Я чую сам,
як інеем са шчок
Шчымліва шчэць густая адрастае.
На здымку усміхнуцца я хацеў,
Ды строгасці і здымак не здымае.
Даруй, што сам на блізкае вярсце,
А для спаткання той вярсты не маю.

* * *

Ну вось першавясновая трывога
Кладзе у сэрца першую дарогу.
Каля акна
бязлістая таполя
Сама вясну падсаджвае на голле.
А горад,
як гадзінніка нутро,
Сюды-туды
свае калёсы круціць.
І гукаў перасыпісты гарох,
Нібы ў кіпячым сагане варушыць.
Ля бочкі
піва п’е начная змена,
Аблочыста шуміць на куфлях пена.
І з пушчы Налібоцкай кветка-сон
Размаладзіла вечны зрок акон.
Імчыцца горад,
правады гайдае,
Гарачыя раскручвае педалі.
А мы з табой,
хоць і адсюль далёка,
Паедзем, дружа, ў тыя Налібокі,
Дзе пачалося нашае каханне,
Дзе пачалося нашае жыццё,
Дзе пачалася нашая вясна...

* * *

Снег у кастрычніку,
Нават мяцеліца.
Дзіўна... Нязвыкла,
Нават не верыцца.
Зайцаў аўтограф
На белай палянцы.
Восень не позняя
Ў снежнай вушанцы.
Толькі лістота бароў
Агнявая
Позірк здзіўлёны
Падаграваe.
Вось ты на сцежцы стаіш,
Маладая,
След свайго боціка
Разглядаеш:
Роўную елачку
З фабрыкі назваю
Гэты сняжок далікатны
Паказвае.
Звычайнай суботай,
Месяцам, годам
Здзіўляй жа, здзіўляй жа,
Маці-прырода.

## КРЫНІЦА

Гуляе,
        іскрыцца
Вясёлы струменьчык,
Варушыць альшаны
Падмыты карэньчык.

Гайдаецца цень
Пад лістамі густымі.
Прасочыцца промень,
І промень астыне.

Струменьчык вясёлы
У цішы прагорклай...
Халодны, калючы
Бунтуе ў прыгоршчах.

Вазьмі маю стому,
Празрысты глыточак!
...Цяцерчынай мовай
Струменьчык булькоча.

## БЯРОЗАВІК

*Дочкам маім*
*Ілоне і Наташы*

П'ём мы, п'ём
з тваіх ран,
Дрэва сплаўнага ўзросту.
Кропля падае ў збан
З парушынкай бярсты.

Вось пабег і цурок
Разам з позіркам бацькі.
Першы ўнучкам глыток
Ад бярозы-землячкі!

А малым і няўцям,
Скуль той дождж[ы]к салодкі.
...Горкі корань жыцця,
Ды... салодкія сокі.

* * *

Не зведаўшы яшчэ зусім дарог,
Ужо я ведаў —
                    суджана дарога.
Галоўнае, я думаў, за парогам,
Галоўнае — пераступіць парог.
Масніца пад нагою заскрыпела,
Сучком, як вокам, сумна паглядзела.
Упершыню пашкадавала маці,
Чаму парог ніжэй, чым сцены ў хаце.
Пераступіць яго так проста сыну,
І не вярнуцца, толькі сум пакінуць.
На бацьку нават паглядзела строга —
Імя было «Бацькоўскі» у парога.
Ды, паспытаўшы горкі пыл дарогі
І зразумеўшы: нельга без дарог,
Прайшоў я зноў да роднага парога,
І здаўся мне высокім мой парог.

## КРОМАНЬ *

(п а э м а)

Дарога й час мне дзён вядуць адлік.
І, знаю, скажуць некалі:
—Даволі!
Спыняецца і вечны рухавік,
Дарога й час не спыняцца ніколі.

Багацце тое не украсці ў іх,
Што вечнасцю (а проста як) завецца.
І ўсё ж,
калі ім суджан перадых,
У пушчы ім спыніцца давядзецца.

Прытулак дрэў.
Рассох зусім масток.
Падушкамі раскіданы аблокі.
І толькі крок адзін да Налібок,
І дзіўна, што па той і гэты бок —
Дзве вёскі з той жа назвай — Налібокі.

Штакетнік роўны, нібы грабянец,
І дуб, маланкай спалены па пахі.
І хвалямі бягуць з канца ў канец,
Каптурацца на сонцы дахі.

Сцябліняцца кусты тэлеантэн,
Шалёўка адлівае жоўтым воскам.
З касцельных шэрых адзічэлых сцен
Растуць, крыжы мінаючы, бярозкі.

* Кромань — возера ў Налібоцкай пушчы.

Тут побач,
за гусіным азярком,
Дзе плаваюць ЗІСа старога скаты,
Пад клён схаваўся мой знаёмы дом.
Ён рад быў мне,
Усім, чым сам багаты:

І конаўкай крынічнае вады,
І дзікім мёдам, і начлегам звабным.
Тут гаспадар сягоння малады,
Мяне не помніць.
Ды не гэта важна.

Я там як свой,
дзе даўні водгук ёсць
Маім раскалыханым успамінам.
Я там не госць,
дзе часты ў доме госць,
Хоць тут спыніўся толькі на хвіліну.

* *

Дарога уваскрэсіць мне
Маленства даўні сон забыты,
Калі з-за сосенаў паласне
Святло балючае блакіту.
Я гэта возера здалёк
Па кропельцы адной пазнаю.
Нібы блакітны матылёк,
Трымціць душа яго лясная.
Вось-вось рассееецца туман,
І сонейка з-за соснаў гляне.
О, Кромань — вечны талісман
Дарог,
сустрэч,
майго бадзяння.

Ты — вока пушчы векавой,
Чарот каля цябе, як вейка.
Ты — ясны зрок душы маёй.
Таму відушчы будзь навекі.
Блакіт калі б вачам такі,
Яны б і плакаць не умелі,—
Блакіт шчымлівы,
трапяткі,
Блакіт зыбучы,
як арэлі.
Цячэ па крылах той блакіт,
Цячэ луской па дзённым сонцы.
І сам, здаецца, ты з лускі,
Калі плывеш у пласкадонцы.
Сякуць ляшчы, нібы мячы,
Карэнні слізкія чароту.
Шчупак шчыруе вастрароты,
Аж гне з блакіту абручы.
Пад лёгкі шэлест лісцвяны
Карась стамлёна засынае.
Вясёлка золкая спіны
Гульню з травінкай усчынае.
А вуда цень свой кіне там —
І знікне ўміг вясёлка тая.
Празрысты венічак хваста
Сляды за ёю замятае.
У папушу скруціцца туман,
Бяры,
куры яго да рання.
О, Кромань —вечны талісман
Дарог,
сустрэч,
майго бадзяння!
Ты — ясны зрок.
А ў пушчы дзень.
Дык паглядзім давай навокал.

На час,
на справы,
на людзей
Зірнём тваім блакітным вокам.

* *

З-за палян зірнула сонейка,
І ажыў сушняк-маўчун.
Як старая кінахроніка,
Скача грэбля уваччу.
Секанулі ліўнем промні,
Фільм я быццам пазнаваў.
А давай яго прыпомнім,
Лепш угледзімся давай.

### Урочышча Дрывезная

Густатраўная прастора.
Абмінуць такую грэх.
З небам дрэвы тут гавораць,
Травы цягнуцца да дрэў.
Вось, здаецца, чую зноўку,
Без памылкі пазнаю,
Як пяе каса-літоўка
Песню звыклую сваю.
Водар мяты, медуніцы,
І лася лясны пагляд.
Пераспелі скрозь чарніцы,
Аж чарніцца далягляд.
Спеў травы са спевам сталі
Спевам сталіся адным,
Дзе на грудзе зноў пасталі
У радок тры буданы.
Тры кастры дымяць паволі,
Тры з вадой кіпяць вядры.

У агонь кідаюць голле
Павары — таксама тры.
Бліснуць зайчыкамі косы —
Йдуць на полудзень касцы.
Самы першы чэша босы
Па мурожным тым пляцы.
Ну а ўслед грабцы-дзяўчаты.
Рой званочкаў-галасоў.
А ўжо полудзень гатоў,
А той полудзень, як свята.
І які ён дымкі,
смачны,
Той, з вядра густы булён,
Пахне пушчаю удзячнай,
Хоць і крышачку салён.
— Ой, салёна, перасолена...
Закахаўся повар, мабыць.
З чарпаком сваволіць Соня:
— Мо дабавіць? Каму мала?
Стол-рагачык ажно гнецца,
Так стараецца сям'я.
Повар, дзеўчына свая,
Дагаджае ёй, сямейцы.
— Перасол, эх, перасол...
Ў маладога брыгадзіра
Нават голас перасох:
— Ну і жарты,
Ну й прыдзіры!
— Ну, а хто у пушчы ўчора
Аж да раніцы блудзіў? —
Жарт жартуе,
Жарт рагоча,
Жарт падгледзеў:
Брыгадзір!
З нашай Соняй брыгадзір!..
Вось адкуль той перасол.

І ад смеху гнецца стол.
Жарт не верыць у стамлёнасць,
Словам рэзаць — не касіць.
Дый калі булён салёны,
То й салёным слову быць.
— Ну, а вусны, вусны ў Соні
Зацалованы, глядзі...
— Можа, досыць на сягоння?! —
Ўсё ж не сцерпеў брыгадзір.

. . . . . . . . . .

Вось і стол угаманіўся,
Па руках пайшоў кісет.
Мультану густыя ніці
Расцягнулі пакрысе.
Мы прыселі з брыгадзірам,
Задымілі ля стала.
Спекаць сама падышла,
Як у дзежцы забрадзіла.
— Каб пагодзіла вось так,
Адкасілі б да суботы,—
Спрытна з галянішча бота
Сшытак брыгадзір дастаў.
Штосьці крэсліў алаўком,
Перапытваў скупа:
— Значыцца, сюды пяшком
З Навікоў прытупаў?
Мы вось з пушчай бавім час.
Тут, не на курорце.
Ну, а вы пісаць пра нас,
Запытаць дазвольце?
Дзіўна неяк, што пра нас —
Люд мы невядомы.
Вечарам, як будзе час,
Просім вас на Кромань.

— Ну, а я вас папрашу,—
Хлопцу адказаў я,—
З вамі трошкі пакашу.
Знойдзецца каса мне?
Зноў шумела і гуло
Тое густатраў'е.
Патрапляў я за сталом,
Тут не патрапляў я.
Я кашулю зняў з сябе.
Ды прычым кашуля?
— Ты не косіш,
                    а дзяўбеш,—
Сам сабе кажу я.
Ну які з мяне касец?!
Абмінулі мігам.
...Прамянёвы грабянец
Плыў на сосны ціха.
Потым будзень-неўгамонца
Зноў схіліўся над сталом.
Заплыло паволі сонца
Проста буслу пад крыло.

## Вечарам

Пажартаваў уранку брыгадзір:
А што яна, паэзія, без юшкі,
Як вечарынка тая без частушкі.
Увечары за юшкай пасядзім.
І вось схіліўся вечар над зямлёй,
Ля буданоў стараецца гармонік.
На мове на пушчанскай той
Касцёр траскуча з берагам гамоніць.
Варушыцца,
                    гарыць мурашнік зор,
Хістаюцца у карагодзе цені.
І вечар свой зачараваны ўзор

На беразе сурвэтай сцеле.
Дрыжыць надгрыўе роснае лазы.
Такая ціш,
Сядзіш, бы ў скалярушчы.
Ляснік тутэйшы з намі,
дзед Базыль,
З густою барадой, нібыта пушча.
Вясёлы дзед.
Відаць, што гаварок,
Што помніць і не помніць, уваскрэсіць.
Ягонай люлькі нітачка-дымок
Адным канцом прывязана за месяц.
Глядзіць у Кромань задумёна дзед
І бачыць зоркі затухальны след.
І бачыць: твар яго расплыўся ў хвалі.
І бачыць: хвалі бераг разгайдалі,
Касцёр, як вежу,
полымя хістае.
А мо касцёл з падання ажывае?
Касцёл нібыта колісь тут стаяў
І патануў у возеры бяздонным.
Званоў ягоных вусціх
спіць у кронах.
Як знік ён —
Побач тупкая зямля?
І кажа тое смешнае паданне:
Затоне Вільня,
Кромань зноў паўстане.
А дзед вяртае даўнія гады.
Заплюшчыў вочы,
Потым зноў адплюшчыў:
— З-пад Вільні, хлопцы,
я прыйшоў сюды.
Адразу і пасватаўся да пушчы.
Ля шляху ды азерца пляц абраў,
За лецейка сабе агораў хату.

Была жанчынка слаўнай памагатай.
Ну, думаў я, і жыць пара.
Гаёвага пасаду атрымаў.
Гаёўка побач.
Возера пад бокам.
Ды цешыўся зарана і дарма —
Прыспела позва неяк з Налібокаў.
Вы, пэўна, здагадаліся: вайна.
А гэтак жыць хацелася, паверце.
Я вокны дошкамі пераржагнаў
І коску спаць павесіў пад павеццю.
А сумна-сумна летам спаць касе,
І сумна гніць на каранi травіцы.
І сум касы даверыў я страсе,
А сум травіцы —
Роднае зямліцы.
Ступіў у Кромань.
Як жа не ступіць?!
Скупнуўся на дарогу,
Развітаўся.
І пра гады ў зязюлі запытаўся,
Гадоў мне накувала, як злічыць.
Дык трэба жыць,
Я з пушчаю згаджаўся.
Да родных жонку тым жа днём адвёз,
Чакалі з ёй сямейкі прыбаўлення.
І так павёў мяне праз пекла лёс
З зязюліным пушчанскім благаславеннем.
Асірацелы сніўся мне парог.
Вайна агнём над лёсам скавытала.
Абмоткамі суровых тых дарог
Мяне яна надзейна абматала.
Я йшоў. І хоць бы дзе адзін прывал,
Браў гарады. Бывала, што здаваў.
Дайшоў да тога маю Перамогі,
Прыйшоў дамоў —

Сямейкі не знайшоў.
Блудзіў у пушчы адзінока,
доўга.
Спыніў мяне грудочак мурашоў.
І я глядзеў,
сваё забыўшы гора,
Як віраваў маленькі той грудок.
Адзін сцяблінку на сабе валок,
Другі ўпіраўся, але поўз угору.
Хацелася яму дапамагчы,
Самому ў мурашаператварыцца.
Стагналі мурашы, як цягачы,
Цягнулі груз жыццёвы па зямліцы.
Я не пакінуў пушчы, хоць яна
Не верыць ані ў якае сіроцтва.
На папялішчы — цішыня адна
І думак невясёлых мноства.
Я Кромань зноў, як калісь, пераплыў
І пачынаў усё спачатку.
Паставіў сельсавет сваю пячатку —
І ўзніклі хаты новыя вуглы.
Ды хата без жанчыны, як труна.
Знайшлася і жанчына неўзабаве.
Так і гады свае ўдваіх мы бавім.
Пры хлебе ды пры дочках і сынах
Няблага нам.
А гляну ў Кромань —
І вайну ўсю бачу.
І той апошні развітання дзень.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Усё адбіта ў гэтае вадзе:
Гады,
трывогі,
ростані людзей,
Усё тут ёсць — ад радасці да плачу.

Замоўк Базыль.
Цягнуўся з люлькі дым,
І полымя упрысядкі скакала.
— А сапраўды,
на лёс адзін
ці мала? —
Азваўся брыгадзір тады.

Дзед

А ты вось малады, дык раскажы
Што-небудзь весялейшае старому,
Што-небудзь, ну такое... ад душы,
А я ад слоў прыдбаў ужо аскому.

Брыгадзір

Ды што ж расказваць?
Слухаць вас прыйшлі.

Дзед (*хітра*)

А я падумаў, юшка тут прычынай.

Брыгадзір

Таксама юшка.
Ці ж калі
Смачней што ведаў гэты край гасцінны.

Дзед

Ах і хіцёр!
Я ведаю цябе...

Брыгадзір

Яшчэ, яшчэ што-небудзь расказалі б.
. . . . . . . . . . . . . . .
Было чуваць,
як конь траву скубе,
Як перашэптваюцца хвалі.

* *

Дзед дакурыў і люльку зноў набіў,
Узяў вугольчык,
прыкурыў няспешна.
Пажартаваў:
— А ўсё ж тытунь слабы,
А моцным, нам,
курыць слабенькі грэшна.
І позірк на мяне ён перавёў:
А сам жа скуль, не ведаю,
хлапчына?
— Ды сам я не здалёку,
з Навікоў.
Вінцук мой бацька.
Ведалі, магчыма?
— А як жа, добра ведаў Вінцука.
Па вечарынках разам з ім хадзілі.
Ляўшун,
ды не слабенькая рука.
Мядзведзя зваліць.
Быў тады у сіле.
На пенсіі?..
І добра, маладзец.
Да пенсіі таксама прывыкаюць.
Адзін Базыль на пенсію не йдзе,
Не йдзе Базыль,
бо пушча не пускае.
Яна, як баба хітрая,
мяне
Аблашчыла,
прыгрэла,
ускружыла.
Галінкай толькі хай адной махне,
Іду за ёй,
тапчу яе сцяжыны.
Ёсць дапамога.

Вунь ён крочыць, сын.
Удвух памалу, значыць, леснікуем.
Мае вы верасочкі-верасы,
Усё здаецца, з вамі я звякую.
Тут свойскі звер,
бо дрэвы не вальер.
За свойскасць гэту пушчу і люблю я,
Не страшны ў пушчы звер, а браканьер,
На браканьераў толькі і палюем.
Вы чулі калі-небудзь плач бабра
І цяжкі стогн параненай ласіцы?
Як можна над прыродаю глуміцца?!
Зноў міласці ў яе прасіць пара.
Каб не застацца нам без салаўя,
Каб нам нашчадкаў нашых не абразіць.
Сынкі мае,
за гэту пушчу я
Перад самою вечнасцю ў адказе.

. . . . . . . . . . . . . .

Ноч светлякамі бліскала з кустоў,
Кастра вуголле тлела, дагарала.
Пад месяцам
жывым здаваўся стог,
Ён рухаўся, здавалася, памалу.
Каля яго прыгнуўся наш будан.
Ён спаў даўно.
Ён прытаміўся сёння.
Салодка спаў.
Я нават адгадаў,
Што сніцца нашай шчабятусе Соні.
«Дабранач!» —
Развітаўся кожны з нас.
Сцяжынка папаўзла ля ног змяёю.
Мне вечар той згадаецца не раз
І юшкай, і размоваю сваёю.

## Удваіх з Кроманню

Калі, прытомлены, засну,
Абняўшы гэты бераг ціхі,
Ты зноў вярні мяне ў вясну
З той роднай назваю —
Дзяцінства.
Дзе ходзіць рыба касяком,
Няшчадна сонца паліць,
Дзе плотка
вострым плаўнікам
Ўразаецца у памяць.

### Сон першы

Не кінахроніка гэта —
Кадры мільгаюць
блакаднага лета.
О Кромань,
Ды гэта ж знаёмыя кадры
І год той...
З бядою цябе заручылі,
І чорным, і дымным
Пярсцёнкам блакады
Шчасце тваё акружылі.
Гэта наяве,
Гэта не ў сне —
Снайпер фашысцкі
Замёр на сасне.
Цяжкая справа —
Смерць паглядае
І злева, і справа.
Ў каровіным следзе —
Вада рудая.
Хай яна смазе
Паспагадае.

Атручана ежа,
Шалее здрада.
Сціскаецца дымны
Пярсцёнак блакады.
Клубочак маленькі —
Рот поўны моху.
Шкрабецца жыццё,—
Ні маці,
Нікога.
Ратуй яго, Кромань,
Ратуй яго. Чуеш?
Ты толькі адно
Яго уратуеш.
Пад недаспелымі журавінамі
Разгроб я ў купешцы
Гняздзечка чмялінае.
У вочы
З дакорам глянулі соты,
Нібыта пытаюць,
Што́ ты і хто́ ты.
Як голад цягнуў да іх
Смяглыя вусны —
Вусціх!
Смактаў тыя соты,
Аж весялеў ты,
Хоць быў ён і горкі,
Мёд таго лета.

### Сон другі

За пушчаю застаўся дом,
А ў пушчы — навальніца.
Перапалохаў далеч гром
Да самае зіміцы.
А я да бацькі як прырос,
Спалох бяжыць па твары.

Чаму не ўціснулі у воз
Мы з сенам тую хмару?
Пасіцявеў галінны дах,
Цямней ля сосен стала.
І гаварыла штось вада
І берагі мінала.
Каня мы спехам запраглі,
Мы з пушчы уцякалі.
Па грэблі колы, як маглі,
Спалохана скакалі.
Дождж бег па грэблі,
даганяў.
Ды як было спыніцца? —
Агністай пугаю каня
Сцябала бліскавіца.
Прачнуўся: мокрая шчака,
Лес парадзеў,
світае.
Ад навальніцы уцякаў —
З дзяцінства ўцёк у сталасць.

. . . . . . . . . . .

Дзяцінства хацелася,
Дзяцінства і сніцца.
Страшна у пушчы,
Калі навальніца.

### Стагаванне

Каб касу зраўняць з маланкай,
Пастараюцца касцы.
Малаткі такуюць зранку,
Як у хвойніку глушцы.
Брые спраўна луг каса —
Ці раса, ці не раса.
Сёння ўбок адклалі косы.

Так гула гарачыня —
Падсушыліся пракосы,
Ўсе травіначкі звіняць.
Дзень аб'яўлены ад рання
Днём вясёлым стагавання.
Сёння ўсім прыпаркі хопіць.
Праз сухі прылужжа згіб
Падаліся гуртам копы —
У стагі, у стагі!
Угары — не на выгодзе,
Там адказна, угары,
Дзе хадой буслінай ходзяць
Навікоўцы-стагары.
Што стагар,
Стагар — змагар.
Ён гуляў не у гульню,
Плыў у аблачынцы,
Лез у тую вышыню
Па адной травінцы.
І не бог яму памог —
На далонях вырас стог.
Раўнабокі,
Глянуць люба.
Ледзь аблок ён не кранаў.
І стажок той дзяцел дзюбай
Колькі раз пераржагнаў.
Прыгажун!
Стаіць, як трэба,
Чым вышэй,
тым харашэй.
Рос бы, можа, і вышэй,
Не пускае толькі неба.
Ён нібыта злеплен з воску.
Усміхаецца грабец:
— Ці не з гэтых вось лугоў,
Ці не з гэтых вось стагоў

Нашы модніцы прычоскі
Запазычылі сабе?

. . . . . . . . . . .

Песні ёсць жніўныя,
Песні ёсць вясельныя,
А ў касцоў сваёй няма.
Эх, дарма!
Ды з бярэзніку чуваць:
Ходзіць песня-удава:
«Ой, дзянькі мінулі,
Лінуў пот з кашулі...
Сонца роўненька ўзышло,
Раса росіцца.
І травіца у стажок
Сама просіцца.

А мы не праспалі,
Косы адкляпалі...

Бачыш, чысценькі лужок —
Ні травіначкі.
Будзе мяккі сеннічок —
Лепш пярыначкі.

Высахлі кашулі,
Траўкі ўсе паснулі...»

На пакосе утаптаным
Гарадок стагоў узрос.
І прастор духмяніць п'яна
Сенакос.
Паглядаюць дрэвы нема.
Пот ліе з мяне цурком.
А стаіць мая паэма
Незавершаным стажком.

* *

І ўсё ж пара развітвацца. Пара.
Дакоскі ўжо. І час — пад стрэхі косам.
Стаіць ён сярод пушчы, стагаград.
На ўрочышчы — бястраўна, безгалоса.

На развітанне Кромань пераплыць
Падказвае і просіць добры звычай.
На развітанне голас таямнічы
Падказвае і просіць верным быць.

Бо тут жа рай, сапраўдны рай. Зірні!
Ну, што ты з гэтым раем параўнаеш?
Зямля мая лясіста-аржаная,
Я ж толькі тут сябе закараніў.

Я — чалавек, рухомае карэнне,
І мне шляхі патрэбны перш-наперш.
Але куды ні йду,
за мною ценем
І ты, зямля пушчанская, ідзеш.

. . . . . . . . . . . . . . .

Дарога й час мне дзён вядуць адлік.
А знаю, скажуць некалі: — Даволі!
Спыняецца і вечны рухавік,
Дарога й час не спыняцца ніколі.

Дарога й час!..
З'ядданы вы навек.
І чалавек не лішні паміж вамі.
Акружаны сям'ёю і сябрамі,
Дарогу й час шануе чалавек.

Спяшаемся куды,
Пытаў не раз.

Мы столькі станцый дарагіх міналі.
Пытаў дарогу,
і сябе,
і час,
І ўсе ўтраіх загадкава маўчалі.

Прабачце мне, дарога й час,
Мне вельмі важна ваш пачуць адказ.

Куды бяжыш, дарога, праз вякі?
Чаму бяжыш не роўна, а віхляеш?
—Як па жыцці ты пойдзеш напрасткі,
Няўжо яго складанасці спазнаеш?

Скажы мне, час, чаму імклівіш так —
Святло, і гук, і думкі ты мінаеш?
— У хуткасцях, як і ў віне, ёсць смак,
Спакуса ёсць вялікая зямная.

З дарогай застаёмся удваіх,
Бывай, не забывай, зямляча-Кромань.
Я дзякую табе за перадых,
Апошні раз ты глянула з-пад кронаў,
З-пад броў сваіх загадкава-густых.

Бывайце, дзед Базыль, ляснік пушчанскі
І вы, касцоў вясёлая сям'я.
Калі змагу, яшчэ праслаўлю я
Ваш горды лёс і клопат ваш сялянскі.

Не лепшая, не горшая з дарог,
Бяжыць, бяжыць пад соснамі дарога.
Няхай яна і будзе эпілогам,
Калі патрэбен твору эпілог.

ЗМЕСТ

Чаромхавы яр . . . . . . . . . . . . . . . 3
*** Адгрукацеў цяжкі цягнік гадоў... . . . . . 4
Сямёнаўна . . . . . . . . . . . . . . . 5
Стоўбцы . . . . . . . . . . . . . . . 7
*** Слова маё, не блудзі... . . . . . . . . . 9
*** Ты ад маці, наша мова... . . . . . . . . 10
На магіле Багдановіча . . . . . . . . . . 11
*** Сівыя, дужыя дзяды... . . . . . . . . . 12
Вясковы аркестр . . . . . . . . . . . . 13
Гасцінец (трыпціх) . . . . . . . . . . . 15
Чатыры дарогі . . . . . . . . . . . . . 17
Раённая гасцініца . . . . . . . . . . . 18
*** Час ідзе сваёй хадой... . . . . . . . . . 19
*** Касяк раз'юшаны машын... . . . . . . . 20
*** Смуга адступае з дубровы... . . . . . . . 21
*** На месцы млына... . . . . . . . . . . 22
*** Як шнурочак жураўліны... . . . . . . . 23
*** Сумна ехаць з лесу веснавога... . . . . . 24
Чарнігаўская гронка . . . . . . . . . . 25
1. Сваяцтва . . . . . . . . . . . . 25
2. Дзясна зачараваная . . . . . . . . 26
3. Гасціннасць . . . . . . . . . . . 27
*** Праводзіць лета ў шлях зыходны рана... . 28
*** Галасы, галасы за дзядзінцам... . . . . . 29
*** Добра спіцца пад дождж... . . . . . . . . 30
*** Зноў ідзеш па гэтых вёсках... . . . . . . 32
Вянкі . . . . . . . . . . . . . . . . 33
*** Помніш: за вёскаю выган... . . . . . . . 34
*** Твой месяцовы твар у акне... . . . . . . 35
На Арабацкай стрэлцы . . . . . . . . . . 36

*** Калі мы з морам удваіх... . . . . . . . . 37
Азоўскія эцюды . . . . . . . . . . . . . . . 38
*** Ніхто не запрашаў мяне ў Лепель... . . . . 40
*** Прыгадалася... . . . . . . . . . . . . . 42
*** І зноў сваволіць вецер-лісцятрус... . . . . . 44
*** Сонца й сёння у нашай кватэры... . . . . . 45
*** Пусцее пляж . . . . . . . . . . . . . 46
Урочышча . . . . . . . . . . . . . . . . 47
На выстаўцы птушак . . . . . . . . . . . . 48
*** Да каранёў спаўзаюць цені... . . . . . . . 50
*** Салдат я... . . . . . . . . . . . . . . 51
*** Ну вось першавясновая трывога... . . . . . 52
*** Снег у кастрычніку... . . . . . . . . . . 53
Крыніца . . . . . . . . . . . . . . . . . 54
Бярозавік . . . . . . . . . . . . . . . . 55
*** Не зведаўшы яшчэ зусім дарог... . . . . . 56
Кромань (паэма) . . . . . . . . . . . . . . 57

**Камейша К.**

18 Тут мае вёсны прычалены. Мн., «Маст. літ.», 1977.

80 с.

Адносіны чалавека да зямлі, да мінулага, сучаснага і будучага роднага краю — вось асноўная тэма вершаў, якія ўвайшлі ў новую кнігу Казіміра Камейшы. Паэму «Кромань» аўтар прысвячае роднай Налібоччыне, яе мужным і працавітым людзям.

**Бел 2**

К $\frac{70403\text{-}009}{М\ 302(05)\text{-}77}$ 47-77

*Казимир Викентьевич Камейша*

ТУТ МОИ ВЕСНЫ ПРИЧАЛЕНЫ

На белорусском языке

Рэдактар В. Б. Спрынчан. Мастак Г. С. Скрыпнічэнка. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар Л. Р. Законнікава.

АТ 10 859. Здадзена ў набор 22/VII 1976 г. Падп. да друку 23/XI 1976 г. Тыраж 3000 экз. Фармат $70 \times 90^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 2,92. Ул.-выд. арк. 2,74. Зак. 403. Цана 28 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.